


*Грамадска-палітычная газета для жыхароў Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў*

# Рэгіён

КАСТРЫЧНІК 2015 г. № 7 (57)

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

**Жительница Белынич не смогла открыть дверь в комнате и выпрыгнула из окна третьего этажа общежития**

Жительница Белынич не смогла открыть дверь изнутри и решила выпрыгнуть из окна комнаты. Падение едва не закончилось трагедией, женщину доставили в районную больницу. Об этом сообщает МЧС.

18 октября 2015 г. в 12.13 в ЦОУ Белыничского ГОЧС от дежурного РОВД, поступил сигнал о необходимости оказания помощи человеку, который лежит на козырьке четырехэтажного общежития по ул. Мичурина в г.п. Белыничи.

Когда спасатели прибыли на место вызова, они установили, что на козырьке общежития (уровень 2-го этажа) лежит пострадавшая женщина 1978 г.р., которая самостоятельно прыгнула из окна 3-го этажа на козырек подъезда, так как не могла открыть входную дверь комнаты изнутри.

Работники МЧС спустили женщину на землю и передали работникам скорой медицинской помощи, которые доставили пострадавшую в Белыничскую районную больницу.

**В Круглянском районе на могиле художника Николая Неврева установлен памятник**

На могиле Николая Неврева в деревне Лысковщина за средства Круглянской ПМК-266 воздвигнут мемориальный комплекс из чёрного гранита. Памятник с надгробными плитами обошёлся предприятию в сумму более 170 миллионов рублей.

Художник прожил здесь последние годы своей жизни.

# ВЫБАРЫ ПРАЙШЛІ. ШТО ДАЛЕЙ?

**11 кастрычніка беларусы на прэзідэнкіх выбарах абралі на чарговы тэрмін кіраўніка краіны. Як і чакалася, ім у чарговы раз стаў Аляксандр Лукашэнка.**




Тое, што Аляксандр Рыгоравіч працягне кіраваць Беларуссю, было зразумела задоўга да пачатку “выбарчай” кампаніі, таму праходзіла яна ў нашым рэгіёне вяла і незаўважна. Як звычайна, нашы слаўныя чыноўнікі актыўна гналі народ на датэрміновае галасаванне, каб забяспечыць патрэбны ўзровень яўкі выбаршчыкаў, ну а пазней з імпэтам лічылі галасы, каб не ўдарыць тварам у бруд перад суседзямі і паказаць адзінадушную падтрымку курсу на далейшае “квітненне”. Неабходна адзначыць, што гэта ім удалося ў поўнай меры. Яўка выбаршчыкаў, згодна афіцыйных дадзеных ЦВК, у Бялыніцкім, Круглянскім і Шклоўскім раёнах склала адпаведна 96,1%, 98,6% і 98,6% ад іх агульнай колькасці па гэтых раёнах. Атрымліваецца, што прагаласавалі на прэзідэнцкіх выбарах у нашым рэгіёне нават тыя людзі, якія знаходзяцца далёка за яго межамі на заробках у Расіі і іншых краінах, а таксама і тыя грамадзяне, якія на выбарчыя ўчасткі наогул не хадзілі. Добра папрацавалі нашы слаўныя чыноўнікі і іх верныя сябры з участковых выбарчых камісій. У Шклоўскім раёне нават спачатку ўмудрыліся зрабіць яўку у 104,2% ад агульнай колькасці выбаршчыкаў (гэта значыць, там на выбары прыйшлі нават мёртвыя), аднак пазней землякоў Рыгоравіча крыху паправілі і канчатковая лічба атрымалася не такой адыёзнай.

Прадэманстравалі жыхары нашага рэгёнана выбарах і сваю

*(Працяг на стар. 2)*

# ВЫБАРЫ ПРАЙШЛІ. ШТО ДАЛЕЙ?

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

нечуваную падтрымку любімаму кіраўніку краіны – за Аляксандра Рыгоравіча, па тых жа дадзеных ЦВК, у Бялыніцкім, Круглянскім і Шклоўскім раёнах прагаласавалі адпаведна 92,57%, 93,09% і 95,16%. Такой падтрымцы народа могуць пазайздросціць нават кіраўнікі цэнтральнаазіяцкіх "дэмакратый", на а пра розных там "абамаў і меркеляў" я наогул маўчу.

Праўда, у наступныя дні пасля выбараў я чамусьці не назіраў на вуліцах натоўпаў людзей, якія б святкавалі нечуваную перамогу свайго куміра на чарговых выбарах і плакалі ад шчасця, што пад яго мудрым кіраўніцтвам мы будзем працягваць курс на далейшае стабільнае квітненне. Адзінае, знаёмыя чыноўнікі ў гутарках казалі, што забяспечылі патрэбны вынік, і зараз іх тузаць ужо не будуць. Гэта значыць, па вобразнаму выразу Аляксандра Рыгоравіча, яны змогуць працягваць спакойна "рохкаць ля кармушкі".

Прызнаюся Вам, паважаныя чытачы, што сам я на гэтае светлае ўсенароднае свята выбараў не хадзіў, бо не бачыў сэнсу ўдзельнічаць у цырку. Як я ўжо пісаў раней, не разумею, чаму ў нашай "квітнеючай" краіне выкідваюць процьму грошай на "выбары", калі іх вынік ужо даўно вядомы. Пусцілі б іх лепш на дапамогу "сіротам і ўбогім", ці на рамонт бальніц, было б нашмат больш толку, а так у чарговы раз чыноўнікі і іх верныя сябры камісій гэтыя грошы "раздзярбанілі". Усе ж у нашай краіне выдатна ведаюць, хто будзе ў Беларусі прэзідэнтам, пакуль Колька не падрасце, ці Рыгоравіч не захварэе і яго яго ж "верныя" чыноўнікі самі не прыбяруць. Тым больш што калі перад мінулымі выбарамі людзям хоць падачкі давалі ў выглядзе падвышэння заробкаў і пенсій, то зараз і гэтага небыло, бо "фінансы спяваюць рамансы".

Па майму асабістаму меркаванню, далей будзе яшчэ горш, бо




да чарговых прэзідэнцкіх выбараў яшчэ пяць гадоў, няма чаго народ асабліва задабрываць. Праўда, у наступным 2016 годзе адбудуцца "выбары" дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, але што ў нас тыя дэпутаты вырашаюць? Зробяць патрэбную разнарадку зверху, давядуць заданне нашым слаўным чыноўнікам і яны "абяруць" у дэпутаты патрэбных ім людзей – сваіх калег-пенсіянераў, ды начальнікаў розных узроўняў, да якіх для забеспячэння прыгожай карцінкі дададуць некалькі дактароў і настаўнікаў, а потым усе гэтыя людзі адзінагалосна будуць падымаць рукі за тое, што ім скажуць. А чаму не падымаць, калі заробак вельмі добры і асабліва напружвацца не трэба, нейкія ўласныя прапановы ўносіць, пра простых людзей клапаціцца. Скажыце, паважаныя чытачы, шмат вы чулі пра дзейнасць у Палаце прадстаўнікоў дэпутата ад нашага рэгіёна, заслужанага пенсіянера Аляксандра Агеева?

Чэсна прызнаюся, што мяне зараз больш хвалюе іншае пытанне – як будзе выжываць у бліжэйшы час наш рэгіён далей і як тут будуць жыць людзі. Бо, паважаныя чытачы, я не асабліва веру ў казкі нашых чыноўнікаў пра "квітненне і стабільнасць", таму што заўсёды імкнуся думаць сваёй галавой і чытаць не толькі пераможныя рапарты нашых слаўных чыноўнікаў аб чарговых дасягненнях, але і аналізаваць дадзеныя эканамічнага развіцця нашага рэгіёна, з якім атрымоўваецца азнаёміцца.

Дык вось, з некаторымі такімі статыстычнымі выкладкамі хачу пазнаёміць і вас. Згодна дадзеных Белстата, валавы рэгіянальны прадукт Магілёўскай вобласці за 9 месяцаў 2015 года склаў толькі 96% ад ВРП за аналагічны перыяд 2014 года, які, у сваю чаргу, складаў толькі 96,8% ад ВРП у 2013 годзе. Так што на сам рэч такая вось сумная "стабільнасць" у нашай Магілёўскай вобласці атрымліваецца, што з кожным годам у нас ВРП значна памяншаецца.

За 9 месяцаў 2015 года вытворчаць прамысловай прадукцыі ў Магілёўскай вобласці у супастаўных цэнах склала 92,4% к 9 месяцам 2014 года, у якім яна таксама складала толькі 94,3% ад года 2013. Прадукцыя

*(Працяг на стар. 3)*

# ВЫБАРЫ ПРАЙШЛІ. ШТО ДАЛЕЙ?

*(Працяг. Пач. на стар. 1-2)*

сельскай гаспадаркі ва ўсіх катэгорыях гаспадарак у Магілёўскай вобласці ў 2015 г. да 2014 г. склала 90,3%, інвестыцыі ў асноўны капітал – 83,3%, увод жылля ў эксплуатацыю – 80,5%, аптовы таваразварот – 83,1%.

Рэальная заработная плата працаўнікоў у Магілёўскай вобласці ў сярэднім за 9 месяцаў 2015 года склала толькі 96% ад зарплаты ў 2014 годзе, у якім яна складала таксама толькі 99,3% ад зарплаты ў годзе 2013. І гэта па афіцыйных звестках Белстата, паважаныя чытачы, вы самі добра ведаеце, што на сам рэч у нашым рэгіёне фактычная сітуацыя яшчэ горшая і, самае галоўнае, яна працягвае пагаршацца.

Я прывёў гэтыя сумныя лічбы, каб наглядна прадэманстраваць, што, кажучы пра праслаўтую стабільнасць, нашы чыноўнікі сапраўды кажуць праўду – у нашым рэгіёне, як і ва ўсёй Магілёўскай вобласці, сапраўды ў апошнія гады стабільна падае аб'ём вытворчасці і ўзровень заробкаў. Праўда, не магу зразумець, дзе яны тут убачылі "квітненне". Магчыма, яны мелі на ўвазе тое, што самі яны і іх слаўныя дзеткі жывуць нядрэнна, седзючы на бюджэце і атрымліваючы добрыя заробкі.

Што ж датычыцца простых беларусаў, то Аляксандр Рыгоравіч цвёрда сказаў на нарадзе 20 кастрычніка, што рэальны заробак у іх абавязкова падымецца. Праўда, толькі к канцу 2016 года. Да таго ж чамусьці ў мяне ўзнікаюць нехарошыя ўспаміны, ці мала чаго нам Рыгоравіч абяцаў за 21 год. Памятаю, што ў гэтым годзе мы ўжо ў сярэднім 1000 буржуінскіх долараў павінны былі атрымліваць, здаецца. Ну і што, шмат хто з нас іх атрымлівае?

Да таго ж, у мяне складваецца ўражанне, што ўсе гэтыя праблемы ў эканоміцы чыноўнікаў нашага рэгіёна не вельмі хвалююць. Яны больш перажываюць за тое, каб захаваць свае пасады.




У Бялыніцкім раёне сярод іх асноўная тэма для абмеркавання зараз – ці сыйдзе, нарэшце, старшыня райвыканкама Мікалай Кадаценка і хто прыйдзе на яго месца.Па чутках, сыйсці ў Магілёў ён усё ж павінен, хоць пасля апошняй вывалачкі, атрыманай Мікалаем Міхайлавічам ад старшыні Магілёўскага аблвыканкама Данеўскага, шмат хто з бялыніцкім чыноўнікаў у гэтым засумняваўся. Але што зменіць сыход Кадаценкі ў эканамічнай сітуацыі ў раёне? У сельскагаспадарчых прадпрыемствах раёна (акрамя калгаса "Радзіма") ужо зараз, пасля рэалізацыі "багатага" ураджаю, фактычна няма грошай на выплату заробкаў і аплату першачарговых патрэб. Заробкі працаўнікам "парэзалі" да самага нізу, у гаспадарак забіраюць атрыманую ў лізінг тэхніку. Надоі малака, за кошт якіх зараз можна атрымаць рэальныя грошы, пастаянна падаюць, ды і адкуль яны будуць, калі ўзровень забяспечанасці гаспадарак кармамі (акрамя той жа "Радзімы") з усімі прыпіскамі нашмат ніжэйшы за нормы. "Флагман" сельгасвытворчасці Бялыніцкага раёна, пра поспехі і дасягненні якога шмат пісалі раённая і абласныя газеты, ААТ "Новая Друць", фактычна з'яўляецца банкрутам, у гаспадарцы няма чым аплочваць першачарговыя плацяжы і заробкі сваім працаўнікам. А колькі грошай уклалі ў гэту гаспадарку і хто кантраляваў эфектыўнасць іх асваення? Ды тыя ж самыя людзі, якія зараз знянацку прачнуліся, калі ўсё дабіта да абуха.

Пра прамысловасць Бялыніцкага раёна мне наогул пісаць не хочацца, бо, хоць раённыя чыноўнікі і рапартуюць пра рост вытворчасці прадукцыі прамысловасці раёна на 110,9%, людзі гэтага на сабе не адчуваюць ніякім чынам. Усе працаўнікі прамысловых прадпрыемстваў Бялыніч у адзін голас кажуць пра тое, што заробкі ў іх за апошні час знізіліся і глядзяць здзіўленымі вачыма, калі я іх інфармую пра тое, што, згодна дадзеных бялыніцкіх статыстыкаў, сярэдні заробак па народнай гаспадарцы Бялыніцкага раёна ў жніўні 2015 года склаў 6173,6 тыс. рублёў і ў параўнанні з аналагічным перыядам 2014 года тэмп яго роста склаў 108,3%. Не хочуць чамусьці прызнавацца, што жыць ім стала лепей, жыць стала весялей. Хаця гэта і зразумела, тыя ж статыстыкі пазней адсправаздачыліся, што ў верасні сярэдні заробак у Бялыніцкім раёне склаў ужо толькі 5784,4 тысячы рублёў…

У Круглянскім раёне сітуацыя таксама далёкая ад вясёлкавай. Флагман эканомікі раёна Круглянскае ПМК-266, дзякуючы сваймуу шматгадоваму кіраўніку Мікалаю Патрончыку, яшчэ знаходзіць замовы на будаўніцтва,

*(Заканчэнне на стар. 4)*

# ВЫБАРЫ ПРАЙШЛІ. ШТО ДАЛЕЙ?

*(Заканчэнне. Пач. на стар. 1-3)*

аднак колькасць гэтых замоў пастаянна скарачаецца. Адпаведна, скарачаецца колькасць працаўнікоў арганізацыі і ўзровень іх заробкаў, тым больш што і за выкананую працу з ПМК-266 разлічваюцца не своечасова. Абласныя “Дажынкі” у гэтым годзе прайшлі ў Круглым, і зараз туды возяць старшыняў райвыканкамаў і іншых чыноўнікаў, каб паказаць, як павінен наводзіцца парадак. Праўда, пры гэтым чамусьці асабліва не ўзгадваюць, колькі ж грошай з бюджэту было ўкладзена ў яго навядзенне і дзе гэтыя грошы ўзяць іншым. Што ж датычыцца стану эканомікі, то ў Круглянскім раёне ён таксама не радуе – за 9 месяцаў не выкананы паказчыкі па вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі па сельгасарганізацыям, вытворчасці малака і вырошчванню жывёлы, заданне па росту сярэднемесячнай заработнай платы.

Малая радзіма Аляксандра Рыгоравіча, Шклоўскі раён, традыцыйна атрымлівае нашмат больш прэферэнцый з бюджэту, чым іншыя рэгіёны Магілёўскай вобласці. Аднак і тут за 9 месяцаў 2015 года здолелі забяспечыць выкананне толькі трох прагнозных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця з дванаццаці. Чатыры арганізацыі раёна атрымалі страты па выніках дзейнасці за студзень-жнівень 2015 года. І хоць у Шклове, у адрозненне ад Круглага і Бялыніч, сапраўды ёсць такая-сякая прамысловасць, людзі тут таксама ў адзін голас скардзяцца на зніжэнне заробкаў і падзенне ўзроўню жыцця.

Да таго ж стала ўжо сумнай традыцыяй тое, што ў Шклове ў чынавецкім асяроддзі рэгулярна ўспыхваюць разнастайныя карупцыйныя скандалы, і каго-небудзь з мясцовых чыноўнікаў рэгулярна садзяць, альбо па-ціхаму выпраўляюць на “заслужаны” адпачынак. Яно і не дзіўна, у раёне сапраўды круцяцца прыстойныя бюджэтныя грошы, а нашы слаўныя чыноўнікі заўсёды рады крыху гэтых грошай адшчыкнуць для сябе, любімых. Дык вось, па інфармацыі журналістаў “Рэгіёна”, такі скандал зноў на падыходзе ў слаўным горадзе Шклове. Больш поўную інфармацыю мы паведамім пазней, бо следчыя дзеянні яшчэ працягваюцца і ёсць верагоднасць, што справа будзе “спушчана на тармазах”, як гэта адбылося з справамі ў адносінах былога намесніка старшыні Шклоўскага райвыканкама Яўгена Семянкевіча і былой кіруючай справамі гэтага ж райвыканкама Людмілы Глякавай, якіх іх любімы кіраўнік краіны вызваліў ад адказнасці пасля лістоў з пакаяннем на свой адрас. А вы яшчэ пытаецеся, шаноўныя чытачы, чаму нашы чыноўнікі так Аляксандра Рыгоравіча любяць…

Ну а пакуль жа сам Аляксандр Лукашэнка заяўляе пра тое, што ў новым пяцігоддзі пад яго кіраваннем працаваць па-старому будзе немагчыма. Па словах Лукашэнкі, развіццё краіны будзе вылучацца навізной. Праўда, не зусім зразумела, чаму гэта адбуцецца менавіта на 22 годзе яго нязменнага кіравання, бо на той жа нарадзе 20 кастрычніка сам Рыгоравіч сказаў, што “Урад будучага пяцігоддзя, у асноўным, і ўсе органы ўлады сфармаваныя да прэзідэнцкіх выбараў”, і чаму старыя чыноўнікі знянацку запрацуюць па-новаму, абсалютна незразумела. Тым больш, што сам беларускі кіраўнік заявіў пра тое, што чыноўнікі выказваюць фанабэрыю да людзей: “Людзі вельмі скардзяцца на чыноўніцкую фанабэрыю. Мы развучыліся размаўляць з людзьмі”. Лукашэнка таксама адзначыў, што такія паводзіны зусім недапушчальныя з боку чыноўнікаў.

Як вы думаеце, зменяцца да лепшага нашы слаўныя чыноўнікі пасля мудрых указанняў Рыгоравіча? Я асабіста маю ў гэтым глыбокі сумнеў…

А вось у тым, што ўзровень




жыцця простых людзей у нашым рэгіёне і ў краіне ў цэлым будзе і найдалей зніжацца, я сумневу не маю. Законы эканомікі не падманеш, таму, без правядзення рэформаў, мы і найдалей працягнем “стабільна” скочвацца ва ўсё больш глыбокую стагнацыю. І чарговы расійскі крэдыт, які мы зноў, як звычайна, праядзім і “пратрахаем”, толькі яшчэ больш пагоршыць сітуацыю ў далейшым, бо любыя крэдыты, як вядома, у рэшце-рэшт патрэбна аддаваць з працэнтамі.

***Іван Барысаў***

## Регион криминальный

10 октября СК возбуждено у/д по ст. 328 ч. 3 УК (Незаконный оборот наркотических средств) в отношении неработающего, не судимого, жителя г.п. Круглое, 1996 г.р., который 9 октября около 12-25 в подъезде дома по ул. Советской сбыл 0,463 грамма особо опасного психотропного вещества MBA(N)-CHM не судимому жителю д. Весна, 2000 г.р. Раскрыто ГНиПТЛ. Задержан в порядке ст. 108 УПК.

14 октября СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 1 УК (Кража) в отношении неработающей, не судимой, могилевчанки, 1967 г.р., которая 11 октября около 13-40 в торговом павильоне на центральном рынке по ул. Ленинской в Шклове, путем свободного доступа, похитила брюки, кеды и плед стоимостью 1 200 000 руб. у индивидуального предпринимателя, местной жительницы, 1962 г.р. Похищенное изъято. Раскрыто ОУР.

## УГОЛОВНОЕ ДЕЛО ВОЗБУЖДЕНО В ОТНОШЕНИИ ДИРЕКТОРА ОДНОГО ИЗ КОММУНАЛЬНЫХ ПРЕДПРИЯТИЙ ШКЛОВА

Прокуратура Могилевской области возбудила уголовное дело в отношении директора одного из коммунальных предприятий Шклова. Об этом сообщил БелТА старший прокурор отдела прокуратуры Могилевской области Евгений Поляков.

Обвиняемый, игнорируя процедуру разработки, визирования, подписания, регистрации и хранения договоров, предусмотренную на предприятии, в апреле 2015 года заключил ряд договоров купли-продажи с коммерческой организацией Минска о приобретении различных товарно-материальных ценностей для нужд предприятия на общую сумму более Br1,3 млрд. При этом договоры были оформлены различными датами, а сумма приобретаемых товарно-материальных ценностей по каждому договору не превышала определенного размера, что позволило подозреваемому избежать необходимости проведения официальной конкурсной процедуры закупки.

Коммерческая структура приобрела все оговоренные договорами товарно-материальные ценности за Br293, 4 млн, а в адрес Шкловского предприятия данные товары были поставлены уже по цене в Br1,3 млрд. В результате указанной преступной схемы



экономически необоснованные затраты предприятия были увеличены на сумму более чем в Br1 млрд, что повлекло тяжкие последствия в виде причинения ущерба данному предприятию государственной формы собственности в особо крупном размере и существенный вред государственным интересам.

В отношении обвиняемого возбуждено уголовное дело по признакам состава преступления, предусмотренного ч.3 ст.426 УК Беларуси (превышение власти или служебных полномочий). Санкция данной статьи Уголовного кодекса предусматривает наказание в виде лишения свободы сроком до 10 лет. Уголовное дело передано в управление Следственного комитета по Могилевской области для проведения предварительного расследования.

## Регион криминальный

В июне 2015 года из сарая дома по ул. Лермонтова, принадлежащего пенсионерке, жительнице г.п. Круглое, 1952 г.р., путем свободного доступа похищены четыре аккумуляторных батареи на сумму 6 000 000 руб. ОУР установлено, что кражу совершил неработающий житель д. Кадино, 1957 г.р. 6 октября СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 1 УК (Кража).

12 октября СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 2 УК (Кража) в отношении ранее судимого по ст. 205 УК жителя а.г. Техтин Белыничского района 1989 г.р., который 8 октября в период с 1-00 до 11-00 со двора дома односельчанки, 1980 г.р., похитил велосипед «Стелс» стоимостью 1 800 000 руб. Раскрыто ОУР. Задержан в порядке ст. 108 УПК.

Похищенное изъято.

18 октября в д. Новопрудье Круглянского района участковым инспектором милиции в ходе осмотра жилища местной жительницы, 1969 г.р., обнаружено и изъято 35 л. браги, сообщает uvd.mogilev.by

## У БЯЛЫНІЧАХ НЕЗАЛЕЖНЫ ПРАФСАЮЗ АБАРАНІЎ ПРАВЫ ПРАДАЎЦА

У Бялынічах незалежны прафсаюз радыёэлектроннай прамысловасці абараніў правы прадаўцоў. У ювелірнай краме ў гарадскім пасёлку Круглае была заўважаная недастача ў амаль 250 мільёнаў. Працадаўца праз суд дамагаўся, каб неабходныя грошы жанчыны заплацілі з уласнай кішэні, распавёў “Еўрарадыё” магілёўскі юрыст незалежнага прафсаюза Радыёэлектроннай прамысловасці Аляксандр Хамратаў:

"У наш прафсаюз звярнулася прадавачка з г.п.Круглае, якая працавала ў ювелірнай краме з 2009 па 2010 гады. У 2013 годзе была выяўленая недастача сярод прадаўцоў на агульную суму 243 мільёны рублёў. Наймальнік ў асобе дырэктара ПМК-266 Мікалая Патрончыка звярнуўся ў суд Бялыніцкага раёна праз пракурора, каб не плаціць дзяржаўную пошліну і спагнаць з прадавачак вышэй узгаданую суму".

Судовае пасяджэнне па гэтай справе вяла старшыня Бялыніцкага раённага суда Валянціна Паўлава. Былы наймальнік хацеў спагнаць з Алены Мельнікавай 37 мільёнаў рублёў. Недастачу меў пацвярджаць акт пазапланавай праверкі. Аднак юрысты знайшлі ў ім парушэнні.

"Мы пачалі вывучаць яе справу. Аказалася, што ў ПМК-266 былі выяўлены шматлікія парушэнні, у тым ліку, Алена Мельнікава не заключыла дагавор калектыўнай адказнасці. Акрамя гэтага былі выяўленыя парушэнні правілаў гандлю, якія і прывялі да такой вялікай растраты. Прайшло некалькі судовых пасяджэнняў. Інтарэсы іншых прадаўцоў прадстаўлялі адвакаты, я ад прафсаюза РЭП прадстаўляў інтарэсы Мельнікавай. Выяўленыя падчас суда парушэнні паўплывалі на вынясенне прыватнага вызначэння ў адрас істца", — працягвае Аляксандр Хамратаў.

*(Заканчэнне на стар. 8)*

# ПЕНСІЙНЫ ЎЗРОСТ У БЕЛАРУСІ МОГУЦЬ ПАВЫСІЦЬ УЖО З 2016 ГОДА

**Але і такая мера не ўратуе эканоміку нашай краіны ад крызісу.**




Старшыня Беларускага прафсаюзу радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) Генадзь Фядыніч у інтэрв'ю «Радыё Рацыя» распавёў, чаму ўлады хочуць павысіць пенсійны ўзрост:

- На мой погляд, павелічэнне пенсійнага ўзросту ў любым выпадку будзе неабходнае, але сёння ўлады да гэтага не падрыхтаваныя, бо ўсё гэта трэба рабіць паралельна з рэфармаваннем пенсійнай сістэмы. Што ў нас атрымліваецца? Улада прапанавала не ісці на пенсію, затое апошняя будзе на нейкі там адсотак павялічвацца. Колькі людзей на гэта пайшло? Мізэр! Усе афармляюць пенсію.

Цяпер цэлы шэраг пенсіянераў не самі звальняюцца, а іх звальняюць у сувязі са сканчэннем тэрміну кантракту. Калі падвысяць пенсійны ўзрост, то ўзнікне пытанне: а хто будзе працаваць на заводах за такія капейкі? І наогул, павышэнне пенсійнага ўзросту не ўратуе эканоміку Беларусі. Улады гэта выдатна разумеюць. Таму што, паўтаруся, без рэфармавання эканомікі і пенсійнай сістэмы проста павышаць узрост для пенсіянераў - гэта тое ж самае, што паставіць святлафор на вуліцы, дзе ён ужо стаіць.

- Чаму вы мяркуеце, што павелічэнне пенсійнага ўзросту ў любым выпадку будзе неабходнае?

- Нашы суседзі - Польшча, Літва - таксама павышаюць пенсійны ўзрост. Але пры гэтым яны, натуральна, ўлічваюць, колькі працуе рабочых, каб заплаціць тым, хто ідзе на пенсію. Гэта такая кансалідаваная дапамога. Але ў нас сёння няма каму працаваць. Калі заўтра будзе на аднаго пенсіянера два працоўныя, то гэта - канец!

- Было заяўлена, што ў пытанні павышэння пенсіённага ўзросту ўлада нібыта будзе раіцца з народам...

- Я не разумею, што гэта за заява. Вы не кажаце прыгожыя словы, а прапануйце народу такія ўмовы, каб ён зразумеў і пагадзіўся з прапановамі. А проста раіцца «трэба, не трэба» - гэта пустое. Так, дзяржава плаціць маленькія пенсіі, таму што ў краіне няма сродкаў. Дык хто ў гэтым вінаваты? Пенсіянер? Ён жа ўсё роўна будзе атрымліваць свае мізэрныя пенсіі - што ў 60 гадоў, што ў 65. Гэта выхад?

- На ваш погляд, падвысяць ўсё ж найбліжэйшым часам пенсійны ўзрост?

- Цалкам верагодна, што паэтапнае павышэнне пенсійнага ўзросту пачнецца ўжо з наступнага года.

# ПРИЗРАК ДЕФОЛТА: ГРОЗИТ ЛИ ВЛАДЕЛЬЦАМ ВАЛЮТЫ РАСКУЛАЧИВАНИЕ?

**Что ждет белорусов, если властям не удастся выпросить кредиты у России и МВФ?**

Евразийский фонд стабилизации и развития (ЕФСР) пока не принял решение по заявке Беларуси на кредит в 3 млрда долларов, пишет zautra.by.

Стороны до сих пор не могут договориться, поскольку белорусские власти не выполнили прежних обещаний: отказаться от чрезмерного государственного стимулирования экономики.

-- Как всегда, тратят на улучшение благосостояния жизни трудящихся, на стимулирование роста ВВП», — заявил глава правления Евразийского банка развития Дмитрий Панкин.

Есть ли у Минска альтернативный источник денег?

Иосуб: В лексиконе экспертов может появиться слово «дефолт»

-- Если мы получим отказ от Евразийского фонда стабилизации и развития, то придется надеяться на кредит МВФ, -- отмечает старший аналитик Альпари Вадим Иосуб.

По его словам, белорусские власти для подстраховки подали заявки на кредит и в Международный валютный фонд, и в ЕФСР.

Причем, запросили приблизительно одинаковую сумму: 3-3,5 млрда долларов.

Эксперт напоминает, что и формальные критерии, которые предъявляют Беларуси оба фонда, похожи: МВФ и ЕФСР требуют структурных реформ.

-- Хотя решение о выделении кредита ЕФСР по сути будет приниматься Россией, у которой контрольный пакет в Евразийском банке, – отмечает аналитик. – Тут возможна политическая подоплека, которой нет во взаимоотношениях с МВФ.

Если оба фонда откажут в

*(Окончание на стр. 8)*

# СВИДЕТЕЛЬ МИРА

«Каков же смысл наших страданий, если они ничему не учат?» - Светлана Алексиевич



*Светлана Алексиевич*

Она родилась на Украине в мае 1948 года в городе Ивано–Франковске. Жила, училась, работала в Беларуси. Все её книги написаны на русском языке, да и интервью она тоже даёт по-русски. Чьей же писательницей можно назвать Светлану Алексиевич — русской, белорусской, украинской? Вопрос этот вовсе не лишён смысла, ведь мировая известность Алексиевич имела своё первоначало в конкретном времени и пространстве. К тому же при выборе книг читатель обычно ориентируется на определенную национально-территориальную принадлежность автора. Указание на страну вызывает в его воображении поток ассоциаций и предпочтений. Вроде того, что если она откуда то из России или, кажется, из Беларуси, и пишет о войне и Чернобыле, то… Всё вроде бы логично и разумно, но случай с Алексиевич — это не тот случай. Творчество её наднационально, оно давно и прочно стало плотью от плоти сверхлитературы человечества, той литературы, о которой пророчил наставник Алексиевич Алесь Адамович. Она пишет для читателя – ЧЕЛОВЕКА, который прочтёт и поймёт её книги на любом языке. «Если кто-то внимательно читал мои книги, то видел, что главный вопрос, которым я задаюсь, — сколько человека в человеке».

Этот главный вопрос определил когда-то всю будущую творческую судьбу Светланы Алексиевич. И началось всё не с хрестоматийно-знаменитой «У войны — не женское лицо». Теперь уже и дотошные литературоведы не помнят, что в 1980 году у молодой белорусской журналистки вышел в свет объёмный публицистический очерк «Бабы», ставший первой значительной вехой на предстоящем ей пути прозрений и откровений. Кстати, написан он был на белорусском языке, что отметает обвинения некоторых критиков в антибелорусскости писательницы. В этом полузабытом очерке у Алексиевич впервые зазвучала тема человеческого в человеке. Деревенские жители, женщины, старики, «бабы» с их бесхитростным сельским бытом и нелёгким опытом жизни…Такова, на первый взгляд, главная сюжетная линия произведения. Но вдумчивый читатель видит здесь частичку огромного всеохватного мира, в котором трудно, но всё-таки — следует жить. Жить, не теряя веры в смысл человеческого существования. Возможно, уже тогда Светлана Алексиевич задумалась о предназначении своего литературного дара, цельно сформулированного в одном из интервью два десятилетия спустя: «Литература должна давать человеку точки нравственной опоры».

А потом пришло время создания первой книги. После выхода «У войны — не женское лицо» на Светлану Алексиевич обрушилось колоссальное читательское признание. Шёл 1985 год, перестройка только начала робко вступать в силу. И появление непривычно-откровенной правды о изученной-переизученной Великой Отечественной стало для общества явной приметой начинающегося духовного обновления. Авторитетный «Новый Мир» назвал эту книгу «одним из самых проникновенных и пронзительных свидетельств о минувшей войне». Да и публикация в год 40-летия Победы тоже повлияла на всплеск интереса к автору, родившемуся, к удивлению многих, в послевоенное время. Получается, повезло, к тому же угадала с круглой датой? Но конъюнктурой здесь и не пахло. Достаточно того, что книгу два года отказывались печатать. А перед этим ещё пять лет ушло на сбор «юбилейного» материала. Делалось это без всякой надежды, что собранное опубликуют. Вдохновляла поддержка Быкова, Адамовича, Брыля, которые скинулись и дали ей денег на поездки по Союзу. А когда не хватало терпения, помогала щемящая память. В роду Алексиевич погибло одиннадцать человек.

«Я начала писать про войну сорок лет спустя, когда сотни тысяч мемуаров и батальных романов были написаны и изданы. И друзья мне говорили: кому нужны военные залпы через столько лет?» Время подтвердило правоту писательницы. Читатель открыл для себя иное человеческое измерение на войне, когда люди даже под залпами оставались людьми, вопреки ненависти и смерти. В том же году, когда книгу напечатали в СССР, появились переводы и издания за рубежом. На болгарском, китайском, чешском, вьетнамском и других языках. Голоса героинь Алексиевич были услышаны, а она окончательно поверила в то, что должна исполнить свой писательский долг. Авторский замысел был прост и одновременно величав, как всё по-настоящему талантливое. «У меня есть замысел — написать семь книг, хронику Маленького человека и Великой утопии».

Это было. С той поры мы узнали «Цинковых мальчиков», «Зачарованных смертью», “Время секонд хэнд”, «Чернобыльскую молитву». Последняя книга не столько напомнила, сколько заново рассказала о страшной реальности Чернобыля. Отчёты международных комиссий или заключения медиков не произвели такого оглушающего

*(Окончание на стр. 8)*

## ПРИЗРАК ДЕФОЛТА: ГРОЗИТ ЛИ ВЛАДЕЛЬЦАМ ВАЛЮТЫ РАСКУЛАЧИВАНИЕ?

*(Оконч. Начало на стр. 6)*

предоставлении средств, то, по мнению эксперта, весьма остро станет вопрос о способности белорусского государства рассчитываться по внешним займам.

- Надо расплачиваться по кредитам. До конца года мы сможем это сделать, но за счет средств из ЗВР. Если мы не получим внешние займы, и не найдем им какой-нибудь альтернативы, то вполне вероятно, что в следующем году в лексиконе экспертов опять появится слово «дефолт», -- прогнозирует Вадим Иосуб.

**Марголин: Дефолта не будет**

Экономист Лев Марголин напоминает, что Евразийский банк развития не перечислил Беларуси до сих пор 440 млн долларов прошлого кредита.

-- Прежде чем снова просить деньги у ЕФСР, белорусские власти должны были выполнить все условия по старому кредиту, -- считает эксперт.

По его мнению, не смотря на то, что в Евразийском фонде в основном российские деньги, официальному Минску труднее уговорить ЕФСР, чем Кремль.

-- Путина можно шантажировать, взывать к братским чувствам, а чиновников из ЕФСР этим не испугаешь. Хотя, в конце концов, что-то выбьют из Евразийского фонда, -- полагает экономист.

Он отмечает, что золотовалютные резервы (ЗВР) страны тают, и пополнить их кроме как кредитами нечем.

-- Как только уровень ЗВР падает ниже минимального двухмесячного объема экспорта, возникает угроза дефолта, -- напоминает эксперт.

Однако, по его словам, для недопущения дефолта власти могут экспроприировать валютные ресурсы у банков, предприятий и населения, которое держит на депозитах приличную сумму.




-- Это когда экономика чисто рыночная и резервов нет, то объявляют дефолт. В наших условиях, дефолта все же не будет, -- прогнозирует Лев Марголин.

## Регион криминальный

15 октября Круглянским РОСК возбуждено у/д по ст. 206 ч. 1 УК (Грабеж) в отношении пенсионера, не судимого, жителя г.п. Круглое, 1949 г.р., который 9 октября около 13-30 в магазине ООО «Евроторг» в указанном поселке открыто похитил бутылку вина стоимостью 24 900 руб. Раскрыто ОУР.

16 октября Круглянским РО СК возбуждено у/д по ст. 206 ч. 1 УК (Грабёж) в отношении жительницы д. Карниловка Круглянского района, 1971 г.р., которая 10 октября в г.п. Круглое пос. Заситье в доме пенсионера, 1950 г.р., открыто похитила его банковскую карточку. Раскрыто ОУР. Похищенное изъято.

28 августа около 3-00 из а/м «Фольксваген», стоявшей возле дома по ул. Якубовского в г. Могилёве, у неработающего жителя г. Могилева, 1981 г.р., путем подбора ключа, похищен перфоратор, шлифмашинка, бензопила, водонагреватель, видеорегистратор, автомагнитола, зеркало заднего вида на сумму 15 550 000 руб. ОУР установлено, что кражу совершил неработающий житель г.п. Белыничи, 1991 г.р. Задержан в порядке ст. 108 УПК. 20 октября СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 1 УК (Кража), сообщает uvd.mogilev.by.

## СВИДЕТЕЛЬ МИРА

*(Оконч. Начало на стр. 7)*

впечатления на ко всему привыкшее человечество, как «Чернобыльская молитва» Алексиевич. Монологи белорусских чернобыльцев переиздали в 16 странах, а литературное достижение писательницы стало интеллектуальным событием современности. Три премии в Германии, престижнейшая российская премия «Триумф», французская «Свидетель мира», шведская, австрийская и ряд других. В этом славном перечне недавно заслуженно появилась Нобелевская премия по литературе. Духовный прорыв, сделанный Алексиевич, трудно переоценить. После знакомства с её книгами совсем не надуманным кажется вопрос, можно ли остаться человеком в нечеловеческих обстоятельствах. Главный вопрос в её творчестве, в мировой литературе, в персональном выборе любого из нас. Трудный, но единственно верный ответ на него нашла и не скрывает Светлана Алексиевич: «Мы не делаем главную работу по осмыслению своей жизни, и все наши проблемы из-за того, что у нас нет пространства личности…Каждый из нас может что-то сделать».

***Сергей АРЖАНЦЕВ***

## У Бялынічах незалежны прафсаюз абараніў правы прадаўца

*(Заканч. Пачатак на стар. 5)*

Юрыст незалежнага прафсаюза РЭП кажа, што з актаў праверак вынікала, што вінаватамі у недастачы была загадчыца крамы, бухгалтар, а таксама начальнік аховы. У выніку з Алены Мельнікавай знялі ўсе абвінавачанні а ад іншых прадаўцоў запатрабавалі менш грошай. Цяпер дзве ўжо былыя прадавачкі ювелірнай крамы мусяць выплаціць недастачу ў памеры 40 і 60 мільёнаў рублёў замест 80 і 120.

Рэгіён

Грамадска-палітычная газета.
Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Надрукавана на ўласным абсталяванні па адрасе: 213173, Магілёўская вобл., Бялыніцкі р-н, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Наклад 299 асобнікаў. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Падпісана ў друк 22.10.2015 г. у 12 -00.